**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№34(646)**
**23 жніўня 2012 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае



## МНС інфармуе
**на 21.08.2012 года:**

**Віцебская вобласць:**
Пажараў – 753;
Гібель людзей – 91, з іх 3 дзіцяці;
Урон – 4150,3 млн. руб.
**Глыбоцкі раён:**
Пажараў – 33;
Гібель людзей – 5, з іх дзяцей няма;
Урон – 250 650 000 руб.

## Спачуванне

Выказваем шчырае спачуванне
**Генадзю Плавінскаму,**
нашаму даўняму аўтару, з нагоды заўчаснай смерці жонкі
**Галіны Плавінскай**
(колішняй жыхаркы блакаднага Ленінграда).

*Ад калектыву "Вольнага Глыбокага"*



**Па Дзісне і Дзвіне пад ветразем.**
*Чытайце матэрыя Алега Лысёнка на стар.5.*

## Беларуская каманда можа прэтэндаваць на перамогу ў сусветным чэмпіянаце лесарубаў, лічыць галоўны суддзя спаборніцтва

**Беларуская каманда можа прэтэндаваць на першае месца ў XXX Сусветным чэмпіянаце лесарубаў, які пройдзе ў Беларусі 24—26 жніўня. Такое меркаванне выказаў на прэс-канферэнцыі ў Мінску 20 жніўня галоўны спецыяліст па ахове працы Міністэрства лясной гаспадаркі Беларусі, галоўны суддзя спаборніцтва Мікалай Патоцкі.**

Паводле яго слоў, беларуская каманда даўно рыхтавалася да гэтага чэмпіянату. З 1994 года яна ўдзельнічае ў розных міжнародных спаборніцтвах. На папярэднім чэмпіянаце лесарубаў у Заграбе беларуская каманда была сёмай.

На XXX Сусветны чэмпіянат лесарубаў прыедуць каманды з 28 краін. «Шэсць-сем каманд маюць роўную кваліфікацыю, і наша каманда ў тым ліку», — адзначыў галоўны суддзя. Сярод прэтэндэнтаў на перамогу каманды Германіі, скандынаўскіх краін, Эстоніі, Расіі.

Спецыяліст адзначыў, што на трэніроўках члены беларускай каманды паказваюць вынікі блізкія да сусветных рэкордаў і нават вышэйшыя. «Перамогу ў камандным заліку вызначае роўны ўдзел усіх членаў каманды», — адзначыў галоўны суддзя.

«Калі нашы ўдзельнікі выступяць у сваю сілу, пакажуць свае вынікі, яны, канешне, будуць на п'эдэстале і прэтэндуюць на першае месца», — лічыць Патоцкі.

Ён адзначыў, што беларусы сёлета паспяхова ўдзельнічалі ў нацыянальных спаборніцтвах у краінах Балтыі, Расіі; да прыкладу, каманда заваявала Кубак Расіі.

Акрамя грашовых сродкаў з прызавога фонду і падарунку ад спонсараў пераможцы чэмпіянату атрымаюць медалі і дыпломы, а камандапераможца — кубак.

*Марына Носава, БелаПАН.*

## Чакаем Вас у Лучаі 2 верасня а 15-й гадзіне

**Сябры, парафія ў Лучаі (Пастаўскі дэканат, Віцебская дыяцэзія) чарговы раз дае магчымасць супольна адпачыць, памаліцца і культурна ўзбагаціцца.**

Хутка пачатак новага навучальнага і катэхетычнага года. З гэтай нагоды запрашаем студэнтаў, школьнікаў, бацькоў, настаўнікаў і выхавацелей, каб навучанне пачаць з Божым благаслаўленнем. Пасля святой Імшы і малітвы за Вас чакае таксама добры канцэрт!!!

У гэты дзень адчынецца ў касцёле новая фотавыстава, тэматыка якой прымеркавана Лучайскім святам, якія, напэўна, многім запомніліся сваім характарам і духоўнасцю.

### Глыбоцкі раён

# Сумаваць не давядзецца

■ **Станіслаў Раманчук**

**Як і ў папярэднія гады, не давядзецца сумаваць усім дарослым і юным удзельнікам прадстаячага ў Глыбокім чарговага Дня беларускага пісьменства, да якога засталіся лічаныя дні**.

Арганізатары маштабных урачыстасцей не сталі прыдумляць веласіпед, а вырашылі пераўтварыць нядзельны вераснёўскі дзень у сувецце талентаў з апорай на свае гістарычныя карані. Таму 2 верасня вуліца Леніна часова зноў стане знакамітым Альгердавым трактам, на якім паселяцца Віленскі, Глыбоцкі, Полацкі і Смаленскі пасады з сапраўдным рыцарскім турнірам, гандлёвымі радамі і карчмой "На раздарожжы" ў стылі сярэднявечча. Тут на вялікім экране намячаецца прэзентацыя відэафільма "Чытаем "Новую зямлю" разам". Знакаміты твор Якуба Коласа з любоўю ў фільме прагучаў у выкананні мясцовых людзей розных узростаў і прафесій. На Альгердавым тракце пройдзе ў дзень свята тэатралізаванае прадстаўленне, на якім з'явяцца і мясцовыя дзеячы-магнаты старажытнасці Корсак і Зяновіч. На яшчэ чатырох іншых цэнтральных вуліцах райцэнтра Энгельса, Маскоўскай, Максіма Горкага і Камуністычнай (а назвы іх якія недарэчныя !) паўстануць хоць на дзень іншыя тракты. Адзін з іх стане трактам яшчэ 7 нацыянальных культур разам з беларускай, другі з назвай "Ад агню да пяра" прадставіць мастацкімі сродкамі развіццё пісьменства ў нашай краіне з мінулага да сучаснасці. Будуць і іншыя сюрпрызы, якія трэба ўсім пабачыць падчас значнай падзеі культурнага жыцця ўсёй Беларусі.




### Пастаўскі раён

# Гаспадары сталёвых магістраляў

■ **Кастусь Александровіч**

**Сваё прафесійнае свята – Дзень чыгуначніка работнікі Варапаеўскай дыстанцыі пуці, што ў Пастаўскім раёне, традыцыйна, як і дзясяткі гадоў назад, адзначылі на працягу выхаднога дня ў гарпасялковым парку.**

Яно было сёлета асабліва адметным, бо вядучы ў краіне від траспарту рыхтуецца да 150-гадовага юбілею заснавання Беларускай чыгункі. Мясцовае яе падраздзяленне больш паўстагоддзя надзейна забяспечвае бяспеку руху цягнікоў на працягу больш чым 400 км. У складзе дыстанцыі 3 участкі пуцявой гаспадаркі, 11 акалоткаў, некалькі цэхаў рухомага саставу і дэфектаскапіі, пуцявая калона, якія забяспечваюць рух па накірунках Полацка, Маладзечна, Друі і Лынтуп. У зоне абслугоўвання дыстанцыі дзясяткі станцый, пераездаў, стрэлачных пераводаў і больш 300 кіламетраў галоўных чыгуначных пуцей. Усю гэту гаспадарку абслугоўваюць меней 350 чалавек, але забяспечваюць надзейнасць руху, апрацоўку соцень вагонаў з рознымі народнагаспадарчымі грузамі. Як і раней, людзі актыўна карыстаюцца паездкамі па чыгунцы. Толькі з абноўленай станцыі Варапаева сёлета за паўгода перавезлі амаль 20 тысяч пасажыраў, летам адсюль за суткі набываюць білеты да ста і болей чалавек. Аб гэтым гаварылася на прайшоўшых урачыстасцях з ушанаваннем сваіх лепшых працаўнікоў. З раніцы ў парку прайшлі спартыўныя спаборніцтвы, а пасля афіцыйнай часткі парадавалі сем'і чыгуначнікаў і ветэранаў сталічная шоу-група "Малінаўка-компані" і народны фальклорны ансамбль "Крынічанька" з Глыбоцкага раёна.

### Шаркоўшчынскі раён

# Людзі – галоўнае багацце

■ **Чэслаў Якубовіч**

**Звычайна летам сельскія працаўнікі маюць зусім небагата вольнага часу для культурнага адпачынку ў рэдкія выхадныя дні з-за шмат працы ў полі.**

Але паламаць састарэлыя стэрэатыпы сёлета вырашылі ў Шаркоўшчынскім раёне, і пасля веснавой сяўбы сталі праводзіць новыя святы буйных мястэчак альбо, як іх завуць па-новаму, – аграгарадкоў. Музыка і песні гучалі спчатку ў Лужках і Германавічах, а потым дайшла чарга і да буйнога населенага пункта Більдзюгі з насельніцтвам каля 600 чалавек. Тут гэту вёску, цэнтр сельсавета і багатай гаспадаркі "Жвіранка" абнавілі яшчэ 7 гадоў назад. Тады былі капітальна адрамантаваны сярэдняя школа, ФАП, магазіны, ККП, з'явіўся нават свой фізкультурна-аздараўленчы цэнтр "Юнацтва" і дзіцячы сад, у які ходзяць болей 20 малышоў, што рэдка сустрэнеш ў іншых вёсачках глыбінкі. А галоўнае, што тут пражываюць вельмі працалюбівыя людзі, якімі раней умела кіраваў таленавіты старшыня Антон Марціновіч, добрыя традыцыі якога плённа прадоўжылі бацька і сын Павел і Андрэй Пальчэхі. У дзень свята ў цэнтры аграгарадка з'явіўся гасцінны двор, на якім ушаноўвалі лепшых працаўнікоў, ветэранаў, маладыя сем'і і сярэбраных такіх юбіляраў.

Ад мясцовага кіраўніцтва садзік атрымаў падарунак – новую гульнявую пляцоўку. Падчас урачыстасцей іграў на баяне нават старшыня райвыканкама Мечыслаў Морхат. У гэтых мясцінах яму, як кандыдату ў дэпутаты парламента, гарантавана падтрымка на выбарах большасці мясцовых жыхароў.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 23.08.12 | | | | Пятніца 24.08.12 | | | | Субота 25.08.12 | | | | Нядзеля 26.08.12 | | | | Пнд.27.08.12 | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +15 | +16 | +19 | +15 | +15 | +16 | +20 | +16 | +14 | +16 | +16 | +18 | +16 | +17 | +22 | +17 | +15 | +16 | +19 |
| Ціск | 740 | 740 | 741 | 742 | 742 | 743 | 744 | 744 | 744 | 743 | 740 | 739 | 740 | 742 | 743 | 743 | 743 | 742 | 741 |
| Вільготнасць | 88 | 77 | 64 | 77 | 80 | 81 | 61 | 81 | 94 | 85 | 96 | 97 | 93 | 88 | 63 | 90 | 97 | 91 | 82 |
| Вецер м/сек | 6 З | 9 З | 9 З | 8 З | 5 З | 8 З | 7 З | 4 З | 4 Ю | 4 Ю | 5 Ю-В | 4 Ю-З | 4 Ю-З | 6 З | 4 З | 3 З | 2 Ю | 2 Ю-В | 4 В |

# Лічба нумара

**440** – **столькі** заяў на рэгістрацыю ініцыятыўных груп, па дадзеных Цэнтрвыбаркама Беларусі, было пададзена сёлета ад 345 грамадзян па збору подпісаў для вылучэння кандыдатаў у новы склад Палаты прадстаўнікоў. У верхнюю палату айчыннага парламента – Савет Рэспублікі, згодна існуючага заканадаўства, такое права вылучаць "дастойных і вопытных" прэтэндэнтаў на крэсла сенатара маюць толькі мясцовыя органы ўлады: гаррайвыканкамы і прэзідыумы адпаведных Саветаў дэпутатаў. Але слаба верыцца, што ва існуючай вертыкалі знойдуцца такія смельчакі, якія адважацца без каманды зверху самастойна вылучыць сваіх кандыдатаў у сенатары.

Увогуле чарговая парламенцкая кампанія працягваецца ў нас па даўно адладжанай да дробязей схеме, бо тых, "хто не з намі", дзеючая ўлада ў дэпутаты, як правіла, не дапускае. Канешне, тэарэтычна, у беларускі парламент, які ў нас не мае рэальных паўнамоцтваў і ўплыву на прыняцце важнейшых для грамадства рашэнняў, можа трапіць любы дастойны прэтэндэнт. У выніку і ў гэтым годзе акруговыя выбарчыя камісіі зарэгістравалі 352 ініцыятыўныя групы, якія сталі займацца зборам подпісаў у падтрымку вылучэння 330 кандыдатаў у дэпутаты ПП РБ. Цікава, што 10 суайчыннікаў зарэгістравалі нават па дзве і болей такіх ініцыятыўных груп, а вось 15 грамадзянам па розных прычынах у такім праве было адмоўлена.

Ды і даўно заўважана, што ў нас займацца актыўнай палітычнай дзейнасцю могуць толькі вельмі ўжо мужныя людзі. Хто думае і дзейнічае не так, як прынята, трапляе аўтаматычна ў лік нават ворагаў дзяржавы, залічваецца ў так званую "пятую калону", хоць ва ўсім свеце наяўнасць апазіцыі – нармальная з'ява. Таму і не дзіўна, што нават дэпутаты адыходзячага складу беларускага парламента не праявілі актыўнасць пазмагацца за няўдрэнна аплочваемыя, утульныя крэслы ў Авальнай зале былога Вярхоўнага Савета, які быў раней рэальна дзеючым заканадаўча парламентам і адным са звенняў дзяржаўнага механізму.

А цяпер той, ад каго ўсё ў нас залежыць, напэўна, вырашыў істотна абнавіць склад нашай Палаты прадстаўнікоў, бо было зарэгістравана толькі 19 ініцыятыўных груп па паўторным вылучэнні кандыдамі ў дэпутаты дзеючых парламентарыяў. У нас у Віцебскай вобласці ў парламент зноў сабраліся толькі 3 з 13 народных абраннікаў на чале з цяперашнім спікерам Уладзімірам Андрэйчанка. Праўда, не выключана, што іх колькасць балатавацца паўторна можа павялічыцца, бо можна вылучыцца і іншым спосабам, ад так званых буйных працоўных калектываў.

Такім чынам прадоўжыўся такі "перадвыбарны цырк", калі канферэнцыя, напрыклад, працоўнага калектыва райбальніцы з аднаго з буйнейшых раёнаў вобласці на сваім сходзе аднагалосна, як за савецкім часам, падтрымлівае кандыдатуру не кіраўніка свайго рэгіёна (той сапраўды дбае пра патрэбы і развіццё медыцыны), а старшыню райвыканкама суседняга малога раёна. Адзначым, што з тых, хто зарэгістраваў свае ініцыятыўныя групы, кожны пяты альбо 66 чалавек - члены розных палітычных партый. У большасці свайй, хоць 5 чалавек прадстаўляюць праўрадавую КПБ і па аднаму ад Беларускай аграрнай партыі, "зялёных", ЛДПБ і Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці, якія таксама падтрымліваюць уладу.

Але гэта не так і важна, бо ў канчатковым выніку лёс новых выбараў даўно прадвызначаны: пройдуць у парламент тыя, хто планаваўся. На месцах жа дзейнічае адладжаны механізм датэрміновага галасавання цэлымі вёскамі, а прыхільнікаў байкоту гэтых парламенцкіх выбараў набярэцца жменька. Яшчэ маглі сказаць свае словы да 13 жніўня і палітычныя партыі. Аднак гэта і не так важна, хто яшчэ можа стаць кандыдатамі ў дэпутаты, хоць у кампаніі сталі ўдзельнічаць шэраг вядомых персон на чале з экс-кандыдатам у прэзідэнты А. Мілінкевічам. Для насельніцтва гэтыя выбары не з'яўляюцца значнымі, людзей больш хвалюе рост цэн, як вывучыць і даць пуцёўку ў жыццё дзецям. Пакуль жа выбаршчыкаў чакае агітацыйная кампанія і не выключана, што шэраг зарэгістраваных кандыдатаў здымуць свае кандыдатуры напярэдадні галасавання, як і абяцалі.

## Дзень за днём

**Акрамя чарговага жнівеньскага павышэння пенсій для беларусаў адбыўся скачок цэн на электраэнергію, газ і на тэхабслугоўванне жылля. Пасля палёта швецкага самалёта над тэрыторыяй Беларусі яшчэ адна рэформа можа спатрэбіцца беларускім Узброеным Сілам, каб у арміі не было слабых месц. А ў войсках ВПС і СПА будзе 4-ты па ліку камандуючы за апошнія 1,5 гады. Паўсюдна ў РБ сутыкнуліся з недахопам будаўнікоў, якія выехалі за мяжу за больш дастойнымі заробкамі. З 2013 года трэцім абавязковым экзаменам для выпускнікоў 11-х класаў стане замежная мова.**

# Важнейшыя навіны свету

**Грэцыя.** Толькі да верасня інвестары могуць падтрымліваць краіну-банкрута і яе ўрад, а затым адбудзецца непазбежнае – грэкі пакінуць зону еўра і значна знізяць узровень жыцця

**Сірыя.** Мясцовыя курды (10 % насельніцтва) ўзялі пад свой поўны кантроль некалькі гарадоў на паўночным усходзе краіны і могуць пераламіць ход грамадзянскай вайны.

**Польшча.** Рэкордным ў Еўропе стаў прыток у краіну прамых замежных інвестыцый, сёлета ён вырасце яшчэ на 5-8 % супраць 10,24 млрд. еўра ўкладанняў у мінулым годзе.

**Італія.** Паліцыя арыштавала былога спікера парламента Ніколя Манчыні па абвінавачванню ў сувязях з мафіях, ад якой за год загінулі ў разборках 24 чалавекі.

**Індыя.** На працягу двух сутак пасля сур'ёзнай аварыі паўночнай энергасістэмы больш 680 млн. чалавек насельніцтва краіны, уключаючы сталіцу Дэлі, жыло без электрычнасці.

**Манголія.** Вярхоўны суд краіны пакараў былога прэзідэнта Намбарына Энхбаяра 4 гадамі турмы за карупцыю, ён падмануў будысцкі манастыр і горназдабываючую кампанію.

**Балівія.** Вядучыя ў свеце амерыканскія кампаніі "Coca Cola" і "Mc Donalds" поўнасцю спынілі сваю дзейнасць у краіне з-за эканамічнага і палітычнага ціску "на капіталізм".

**ЗША.** Суд Нью-Йорка пакараў 12 гадамі турмы амерыканку Энн Петтуэй, якая ў 1987 годзе ўкрала з раддома ў халаце медсястры чужую дзяўчынку і выгадавала яе.

**Бразілія.** Працэсам стагоддзя стаў суд у Вярхоўным судзе краіны над 38 асобамі з акружэння экс-прэзідэнта Луіса Сільвы па абвінавачванню ў карупцыі, адмыванні грошай.

**Самалі.** Прэзідэнт краіны Шарыф Ахмед паабяцаў вызваліць ад адказнасці больш 2 тысяч піратаў, калі яны вызваляць заложнікаў, вярнуць уладальнікам іх захопленыя судны.

**Літва.** Урад краіны павысіў мінімальную зарплату да 850 літаў, альбо 302 $ ці 2,550 млн. беларускіх рублёў, павышэнне закранула 200 тыс. літоўцаў, 1 гадзіна працы – 5,15 літа.

**Украіна.** У выніку спецаперацыі міліцыя вызваліла ў Нікалаеўскай вобласці 15 грамадян Афганістана, якіх бандыты выкралі з аўтавакзала ў Адэсе з мэтай атрымання выкупу.

**Англія.** Эканомісты краіны прайшоўшыя XXX летнія Алімпійскія гульні ў Лондане прынеслі каля 16,5 млрд. фунтаў стэрлінгаў даходу, тут пабывала 4,5 млн. турыстаў.

**Аўстрыя.** Арганізатар адпачынку А. Лукашэнкі на горным курорце, былы кіраўнік НАК краіны Хайнц Юнгвірт атрымаў 5 гадоў турмы за незаконнае прысваенне 3,3 млн. еўра.

**Расія.** Падчас знаходжання папулярнага спевака В. Лявонц'ева на гастролях, злодзеі аграбілі ягоную кватэру ў Маскве, скралі 5 млн. рублёў з 2-х сейфаў, золата, брыльянты.

# Пад Полацкам знойдзена рэдкае выданне пра беларускую святую



■ Дзмітрый Дзежыц

**Арыгінал выдання «Прападобная Евфросиния, князёўна Полотская», які выйшаў у Санкт-Пецярбургу ў 1910 годзе, быў знойдзены палачанінам Андрэем Латышом на гарышчы аднаго з старых будынкаў у вёсцы Бельчыцах.**

Буклет змяшчае 33 старонкі. У яго першай частцы распавядаецца пра жыццё прападобнай Еўфрасінні Полацкай, у другой апісана гісторыя Полацкай зямлі і Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра, а заключная частка кнігі прысвечана старажытным малітвам да Еўфрасінні Полацкай.

У выданні апісаны ключавыя факты гісторыі Полачыны: зімовы паход Іаана Грознага 1562-1563 гг.; Ўзяцце Полацка польскім каралём Стэфанам Баторыем у 1579 годзе, што пацягнула пераход праваслаўных храмаў і манастырскіх зямель да каталіцкага ордэна езуітаў; судовы працэс езуітаў з грэка-каталіцкай царквой за права валодання крыжом Еўфрасінні Полацкай; гісторыя старажытнага горада і лёс крыжа Еўфрасінні ў перыяд вайны з Напалеонам; пачатак будаўніцтва цёплага храма ў гонар Святой Еўфрасінні.

У буклеце апублікаваныя і тры фатаграфіі: Спаса-Праабражэнскі храм Полацкага Спаса-Еўфрасіннеўскага манастыра, крыж прападобнай Еўфрасінні і Полацкі Сафійскі сабор з базыльянскага манастыра.

Буклет выпушчаны выдавецтвам І. Л. Тузова ў Санкт-Пецярбургу ў 1910 годзе ў гонар перанясення мошчаў прападобнай Еўфрасінні Полацкай з Кіева ў Полацк. Аўтар выдання - рускі публіцыст і духоўны пісьменнік Яўген Мікалаевіч пагодлівым (Поселянин).

Дадзенае выданне не з'яўляецца рарытэтным, але яго няма ні ў бібліятэцы Спаса-Еўфрасіннеўскага жаночага манастыра, ні ў сховішчы мясцовага гісторыка-культурнага музея-запаведніка.

Рэдкую знаходку Андрэй Латыш падарыў полацкаму краязнаўцу Андрэю Бухавецкаму, які пасля вывучэння буклета плануе ажыццявіць рэпрынт выдання.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Як і чакалася, пасля інцыдэнту са шведскім самалётам сваіх пасад пазбавіліся генералы, галоўны пагранічнік І. Рачкоўскі і камандуючы ВПС-СПА Д. Пахмелкін.

**Салігорск.** На парытэтных асновах "Беларуськалій" сумесна з "Уралкаліем" можа да пачатку 2013 года стварыць агульную кампанію "Саюзкалій" для аптымізацыі бізнесу.

**Астравец.** Ужо больш тысячы кваліфікаваных будаўнікоў прынялі на працу на ўзводзімай АЭС, у наступным годзе іх колькасць яшчэ патроіцца. У гэтым раёне намечана ўзвесці і 4 новыя школы.

**Мінск.** Міністэрства культуры РБ пагадзілася прадаваць інвестарам невыкарыстоўваемыя зусім гістарычныя будынкі за адну базавую велічыню, у гэтым спісе – 46 аб'ектаў.

**Брэст.** Украінская кампанія "Абалонь" пачала перамовы аб набыцці мясцовага піўзавода "Брэсцкае піва", бо прадпрыемства не можа самастойна завяршыць сваю рэканструкцыю.

**Гомель.** Міліцыя пачала вышук адразу 5 маладых жанчын, якія зніклі без вестак адначасова раптам ў абласным цэнтры, горадзе Светлагорску і ў Петрыкаўскім раёне.

**Навагрудак.** Падчас моцнай буры ў райцэнтры пасля рэкорднай спёкі выпаў град велічынёй з перапяліныя яйкі, а ў Пінскім раёне град пашкодзіў дахі нават 44 дамоў.

**Мінск.** Самым дарагім сярод ВНУ Беларусі стала навучанне на стаматолагаў у мясцовым дзяржмедуніверсітэце, дзе год вучобы каштуе 15, 9 млн. рублёў, дорага вучыцца і ў БДУ.

**Жлобін.** У момант атрымання хабару ў памеры 3,5 тыс. $ супрацоўнікі КДБ затрымалі аднаго з галоўных спецыялістаў БМЗ разам з падзельнікам, а набралі ўсяго болей 50 тыс.

**Гродна.** Днём падчас будаўніча-мантажных работ у выніку абвалу грунту вышынёй 7 метраў трагічна загінулі двое рабочых мясцовай БПМК-70 ва ўзросце 23 і 55 гадоў.

**Маладзечна.** У двух вёсках раёна Талуі і Малая Бяркоўшчына міліцыя знайшла і знішчыла ў закінутым доме і ў хляве беспрацоўнага 12 тон брагі і самагонныя апараты.

**Смаргонь.** Жыхарку райцэнтра падмануў на 3 тыс. $ махляр, які ў Інтэрнэце па скайпу прыкінуўся амерыканскім ваенным Джонам з Афганістана і паабяцаў на ёй ажаніцца.

**Мінск.** У росквіце сіл пайшлі з жыцця ва ўзросце 52 гадоў таленавіты кінарэжысёр Аляксандр Колбышаў і вядомы спартыўны журналіст Сяргей Аляхновіч у 44 гады.

**Беразіно.** На ўездзе ў райцэнтр да свята-конкурсу "Бярэзінскія лыжачнікі" ўстанавілі ўнікальны ў краіне помнік драўлянай лыжкі вышынёй 3,5 метры разам з пастаментам.

**Мінск.** У знятым новым дакументальныя фільме "Беларусь 1812. Памылка Напалеона" сказалі праўду, што большасць беларусаў у той вайне былі на баку французскіх войск.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кіраўнік вобласці А. Косінец распарадзіўся з наступнага года адмяніць на Віцебшчыне пашавае ўтрыманне статку, жывёлы поўнасцю будуць знаходзіцца на фермах.

**Гарадок.** За 2 месяцы да распрадажу буйнейшы ў вобласці свінакомплекс "Паўночны" пачаў прымаць заяўкі на продаж парасят насельніцтву, тут пагалоўе свіней 54 тысяч галоў.

**Глыбокае.** НАК вобласці вырашыў, што імя глыбачанкі Марыны Шкерманковай, прызёра гульняў Алімпіяды-2012 у Лондане ўпрыгожыць алею Алімпійскай славы ў Віцебску.

**Дуброўна.** Адразу ў трох гаспадарках раёна замест адслужыўшых свае польскіх запусцілі новыя зернесушылкі КЗСВ "Лідсельмаша", па вобласці ўвялі 9 новых зернекомплексаў.

**Чашнікі.** Дырэкцыя мясцовага ПМС звярнулася да памочніка прэзідэнта па вобласці М. Дамашкевіча з просьбай абараніць ад пастаянных праверак на працягу апошніх 1,5 года.

**Полацк.** Упершыню ў вобласці на мясцовым прадпрыемстве меліярацыйных сістэм пачалі вырошчваць на тэрыторыі рыбагадавальніка … ракаў, квота вылаву на сезон – 200 кг.

**Шуміліна.** У адкрытым новым будынку Мікалаеўскага лясніцтва пачала працу выязная пашыраная калегія Міністэрства лясной гаспадаркі РБ, яна агледзела 6 лягсагаў вобласці.

**Паставы.** Гаспадаркі раёна праінспектаваў віцэ-прэм'ер РБ Міхаіл Русы і паведаміў, што ўрад выдзеліў яшчэ 150 млрд. руб. на закуп абсталявання для рэканструкцыі ферм краіны.

**Наваполацк.** Афіцэрскі баль стаў упрыгожваннем свята 200-годдзя былога ваеннага гарадка, гарпасёлка Баравуха, які стаў адным з аддаленых гарадскіх мікрараёнаў.

**Віцебск.** Міліцыя не змагла адшукаць дваіх пажылых людзей, якія пайшлі ў лес за ягадамі і прапалі, за апошнія 10 гадоў зніклі ў лясах вобласці 40 чалавек, з іх - палова пенсіянеры.

**Орша.** Па маршруту Орша-Крычаў пачаў курсіраваць першы беларуска-польскі сучасны хуткі аднавагонны цягнік без прыпынкаў на асобных станцыях, расход паліва меншы.

**Верхнядзвінск.** З-за неасцярожнасці пры курэнні на падпітку ноччу ў вёсцы Валынцы загінулі ў згарэўшым на пажары доме 52-гадовы гаспадар і яго 33-гадовая сужыцелька.

**Докшыцы.** Падчас жніва ансамбль народных інструментаў "Касары" Параф'янаўскага Дома культуры даў шэраг канцэртаў падчас абедзеных перапынкаў камбайнераў раёна.

**Лёзна.** Раённы суд з улікам хваробы пакараў 2 гадамі абмежавання волі махляра, які падмануў шэраг гараджан, ён можа трапіць у турму, бо ехаў у нецвярозым стане за рулём.

**Віцебск.** Аблвыканкам стварыў аргкамітэт па пераўтварэнні горада да 2020 года ў сучасны цэнтр з насельніцтвам 0,5 мільёна чалавек і з Дыснейлендам на манер Парыжа.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# І дзе ж той касцёл XVII стагоддзя?

■ Ул. Скрабатун

**Сама задума ставіць дарожныя шыльды з указаннем накірункаў да помнікаў гісторыі і дойлідства – вельмі файная! Чым больш такіх шыльдаў, тым лепш мы прэзентуем гісторыю і культуру нашага краю ў вачах шматлікіх турыстаў і розных аўтавандроўнікаў, як айчынных, так і замежных, якія часта тут сноўдаюцца па нашых дарогах.**




Колькі часу таму адна з падобных шыльдаў была ўсталяваная на скрыжаванні дарог Полацк-Вільня і Глыбокае-Барысаў. Шыльда паказвае накірунак да касцёла, помніка дойлідства XVII ст. Адлегласць – 80 кіламетраў.

Дык які гэта касцёл, што знаходзіцца ад Глыбокага за 80 км.? Першы касцёл пры дарозе Полацк-Вільня – у Дунілавічах. Але ж ён – 18 ст., а не 17 ст. Ды й да Дунілавічаў не 80 км, а дзесьці 35 км. Можа ў Лучаі? Але ж і там касцёл 18 ст. Да Лучая хіба што кіламетраў 40. Паставы не ўлічваем! Там касцёл XIX ст. Пад гэтую адлегласць, магчыма, прыпадае Мядзел, але і там касцёл пабудовы 18-га, а не 17-га ст. Значыць, і не Мядзел! Дык што?

Адзінае, што прыпадае на гэтую адлегласць і час пабудовы – касцёл св. Яна Хрысціцеля ў Камаях. Менавіта ён і пабудаваны ў 17 ст. Але, чаму так няўцямна напісана на шыльдзе. Нават аўтар гэтых радкоў, краязнаўца, некалькі гадзін гадаў: і дзе ж той касцёл, які згадваецца на прыдарожнай шыльдзе.

Сапраўды, касцёл у Камаях (Пастаўскі р-н) – вельмі ўнікальны! Касцёл-крэпасць! На ўсёй Беларусі падобных храмаў засталося хіба што 3: Свята-Раства-Багародзіцкая царква-крэпасць — у в. Мураванка Шчучынскага раёна, пабудаваная ў 1524 г і Сынкавіцкая царква-крэпасць, што ў Зэльвенскім раёне Гродзенскай вобласці, пабудаваная каля 1500 г., і – у Камаях.

Касцёл Яна Хрысціцеля ў в. Камаі, пабудаваны ў 1603—1606 гг. па фундацыі Яна Рудаміны-Дусяцкага, героя Хоцінскай бітвы з туркамі. Акт фундацыі 1606 г. падпісаны Янам Хаецкім.

На мяжы 16-17 стст. шэраг касцёлаў захоўвалі выразныя абарончыя элементы і рысы паўночнага Рэнесансу[1]. Гэта было звязана з актыўным удзелам у тагачасным палацава-замкавым будаўніцтве групы інжынераў-фартыфікатараў з Нідэрландаў, напрыклад, кіраўніка каралеўскімі пабудовамі ў Вільні Пятра Нонхарда і яго паплечніка Ван Дандэна, якія атрымалі грамадзянства Вялікага Княства Літоўскага.

Цікавыя экскурсіі для школьнікаў можна арганізоўваць не толькі ў Мірскі замак, але і па самых блізкіх глыбоцка-пастаўскіх ваколіцах.

[1] Рэнесанс – інакш, на нашай мове, гэты стыль мае назоў Адраджэнне.



**Касцёл святога Яна Хрысціцеля ў Камаях (Пастаўскі р-н). Год пабудовы – 1603-06 гг.**

# Па Альгердавым тракце

**Па Альгердавым тракце адправяцца ў гістарычнае падарожжа госці і ўдзельнікі Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім**

У час святочных мерапрыемстваў Дня беларускага пісьменства, які традыцыйна будзе адзначацца ў першую нядзелю верасня, пяць вуліц у цэнтры Глыбокага — сталіцы сёлетняга свята — зменяць свае назвы і ператворацца ў тракты, на якіх з раніцы і да самага вечара завіруе гаманлівае жыццё.

Так, па вуліцы Леніна размесціцца гістарычны Альгердаў тракт. Такую назву дарога, што пралягала побач з гэтымі мясцінамі, атрымала яшчэ за сто гадоў да заснавання самога Глыбокага. Менавіта па ёй з Вільні ў Віцебск і Смаленск ездзіў некалі вялікі князь літоўскі Альгерд.

Як расказала начальнік аддзела культуры Глыбоцкага райвыканкама Таццяна Малатоўнік, у святочны дзень на Альгердавым тракце з'явяцца Віленскі, Глыбоцкі, Полацкі і Смаленскі пасады. Госці змогуць пазнаёміцца з гісторыяй і культурай гэтых гарадоў, стаць удзельнікамі старажытных панскіх гульняў і забаў, паглядзець рыцарскі турнір, наведаць гандлёвыя рады і адмысловую карчму «На раздарожжы», аформленую ў стылі 14—17-га стагоддзяў.

Варта нагадаць, што сёлетні Дзень беларускага пісьменства пройдзе пад эгідай аб'яўленага ў нашай краіне Года кнігі і 130-гадовых юбілеяў класікаў нацыянальнай літаратуры Янкі Купалы і Якуба Коласа. Гэтая тэма знойдзе адлюстраванне і на Альгердавым тракце. Адным з мерапрыемстваў стане дэманстрацыя фільма, які стаў вынікам раённага праекта «Чытаем «Новую зямлю» разам». Людзі розных прафесій і ўзростаў, з'яднаныя любоўю да роднага слова і прыгажосцю коласаўскага паэтычнага радка, прачытаюць з вялікага экрана ўрыўкі з паэмы «Новая зямля», тым самым заахвочваючы падрастаючае пакаленне да чытання, прапагандуючы беларускую класіку.

Цэнтральнай дзеяй на Альгердавым тракце стане тэатралізаванае прадстаўленне, галоўнымі персанажамі якога разам з князем Альгердам выступяць і колішнія глыбоцкія магнаты Корсак і Зяновіч.

Тракт з назвай «Ад агню да пяра» разгорнецца па вуліцы Энгельса і прадставіць развіццё пісьменнасці ад старажытнасці да сучаснасці. Тут можна будзе пачуць архаічныя спевы і ўбачыць архаічныя спосабы здабычы агню. Удзельнікі гістарычных аматарскіх аб'яднанняў раёна і вобласці пазнаёмяць з іголкавым шыццём, пісьмом на бяросце і камені, жадаючыя змогуць паспрабаваць свае сілы ў старадаўніх рамёствах — ганчарстве, ткацтве, вышыўцы, зазірнуць у майстэрню па перапісу кніг, пазнаёміцца з рунічнай пісьменнасцю, скорапісам і каліграфіяй.

Разам з беларусамі прадстаўнікі яшчэ 7 нацыянальнасцей — рускія, украінцы, яўрэі, палякі, армяне, латышы, літоўцы — запрошаны прадэманстраваць спевы і танцы, традыцыі і звычаі, адметнасці кухні сваіх народаў на Тракце нацыянальных культур, у які ператворыцца вуліца Маскоўская. На Турыстычным тракце па вуліцы М. Горкага разгорнуцца выстаўка-прэзентацыя турыстычных маршрутаў і вернісаж «Светачы зямлі Глыбоцкай». А Тракт «Шчодрыца» (вуліца Камуністычная) запросіць на падвор'і сельсаветаў і гаспадарак Глыбоцкага раёна, дзе можна будзе і выступленні самадзейных артыстаў паслухаць, і рознымі вясковымі прысмакамі добра пачаставацца.

Зразумела, гэта далёка не ўсе сюрпрызы, якія чакаюць удзельнікаў сёлетняга Дня беларускага пісьменства ў Глыбокім, праграма якога вельмі насычаная і цікавая як для дзяцей, так і для дарослых.

*Ірына СВІРКО, «Р»*

# Усталяваны новы помнік на магіле выдаўца глыбоцкіх паштовак

■ Ул. Скрабатун

У рэдакцыю нашай газеты разам з унукам завітаў Яўген Уладзіміраў, наш сталы чытач, які жыве ў Мінску.

*– Я выканаў сваю даўнюю задуму, якая ўжо колькі гадоў не давала мне супакою,–* кажа спадар Яўген,*– нарэшце паставіў новы годны помнік на магіле сваіх таты і мамы.*

На цвінтары Копцеўка пахавана вельмі шмат некалі выбітных глыбоцкіх людзей. Спіс будзе вельмі доўгім, але згадаем хоць некалькіх: Алег Тарыкаў, краязнаўца, аўтар кнігі «Світанкі ў праддонных азёраў», кс. Антоній Зянкевіч, дзекан глыбоцкі, сястра Тадэя Касцюшка, мецэнатка, Альберт Бацяноўскі, сябра падпольнай арганізацыі Саюз Беларускіх Патрыётаў... Ну, натуральна, і барон Мюнхгаўзен! Толькі з-за гэтага персанажу, шматлкія госці нашага горада імкнуцца наведаць старадаўнія глыбоцкія могілкі.

Амаль закрыты цвінтар Копцеўка стаўся, фактычна, музеемальбомемарыялам, які не мінаюць і турысты. Вежакалона ў гонар Канстытуцыі Рэчы Паспалітай ад 3 траўня 1791 г., капліца св. Іллі Прарока пач. XIX ст, вайсковыя пахаванні польскіх легіянераў з 1920 г...

Цяпер дадаўся годны помнік выдаўцу глыбоцкіх паштовах 1920-30-х гг Уладзіміру Васільевічу Уладзіміраву. Дарэчы, яго крама па продажу паштовак і пісьмовых матэрыялаў «за польскім часам» размяшчалася якраз насупраць тагачаснай і цяперашняй глыбоцкай пошты. А неўзабаве ў яе будынку паўстане музей глыбоцкай паштовай службы. У музеі будуць і фатакопіі паштовак, якія выдаваў У.В. Уладзіміраў.

Нагадаем нашым чытачам, што ў «ВГ» №45 за 11.11.2010 года быў апублікаваны матэрыял **«Запатрабаваны і сёння»**, які быў прысвечаны 80-м угодкам з дня народзінаў Яўгена Уладзіміравіча Уладзімірава, кандыдата тэхнічных навук, дацэнта, члена-карэспандэнта Міжнароднай акадэміі інфармацыйных тэхналогій, супрацоўніка НАН Беларусі з 53-гадовым стажам, сына выдаўца глыбоцкіх паштовак.

Вы не паверыце! Але і цяпер, калі мінула фактычна два гады з той публікацыі, ужо 82-гадовы Яўген Уладзіміравіч Уладзіміраў, працуе і сёння. Ён – намеснік выканаўчага дырэктара ГНТП «Інфармацыйныя тэхналогіі».




**Помнік Уладзіміру і Ефрасінні Уладзіміравым на цвінтары Копцеўка.**

# Аграэкасядзібы дамамогуць у спыненні катастрофы, якая насоўваецца на нашыя вёскі



■ **Алег Лысёнак**,
*старшыня праўлення МЭГА "Прырода і мы", г. Глыбокае.*

**У цяперашні час вялізную цікавасць у Беларусі набыў агратурызм, бо шмат каму адпачынак за мяжой не па кішэні, а й вялікія кошты на пражыванне ў аграэкасядзібах – да $40 – адпалохваюць беларусаў, найперш пенсіянераў. А вось для расіянаў кошты прымальныя. Адпачынак на Беларусі для іх – настальгія па часах СССР. Галоўнае ў такім адпачынку – лазенка, вадаём, мангал, і вельмі добра калі ёсць яшчэ лодка.**

Тут можна задаць пытанне: дзе тут аграэкатурызм? Можа ў назве? Калі аграсядзіба, то турыст павінен удзельнічаць у жыцці сядзібы: гэта – догляд за садам, кветкамі, вырошчванне гародніны для сваіх патрэбаў, рабіць нарыхтоўкі прадуктаў і г.д. Калі экасядзіба, то турыст павінен удзельнічаць у экалагічных мерапрыемствах, у пешых, водных паходах, наведваць дэндрапаркі, цікавіцца экалагічнымі праблемамі дадзенай мясцовасці, нават дапамагчы ў іх вырашэнні, і калі яму будзе прадстаўленая такая магчымасць.

Улічваючы, што насельніцтва ў сельскай мясцовасці хуткімі тэмпамі скарачаецца і знікненне малых вёсак не за гарамі, таму аграэкасядзібы ўжо нейкая дапамога ў спыненні катастрофы, якая насоўваецца на сельскую мясцовасць.

Вось з такімі сядзібамі, яе гаспадарамі, мне давялося пазнаёміцца. Пачну з Сяргея Дзіковіча, гаспадара сядзібы "Буслінае гняздо", што ў в. Васіліны на Пастаўшчыне. Унікальны чалавек! Пчалавод, пячнік, столяр, цясляр, аграном, эколаг і г.д. Змайстраваў судна на 30 месцаў, якім можна кіраваць вёсламі, ветразем і маторам. Ён жа арганізаваў экспедыцыю па рэках Дзісна-Заходняя Дзвіна.

Першая начоўка была ў г.п. Шаркоўшчына: сустрэча з жыхарамі, гутаркі аб экалагічным стане ракі Дзісны, і наўпрост на беразе ракі ўдзельнікамі экспедыцыі быў дадзены канцэрт. На другі дзень а 24-й гадзіне прыбылі ў г. Дзісна. Спыніліся на сядзібе "У бабы Мароз". Гаспадыня сядзібы Вольга Мароз сустрэла нас вельмі ветліва: была прыгатаваная лазня, смачная вячэра, начоўка. Наступным днём сп-ня Вольга правяла для нас экскурсію па г. Дзісна. Гэта было штосьці, што нельга апісаць, калі экскурсію праводзіў чалавек, які ўлюбёны ў свой горад і яго жыхароў! Горад вельмі спадабаўся: чысты, утульны, ідзе рэстаўрацыя касцёла Беззаганнага зачатку Найсвяцейшай Марыі Панны і іншых будынкаў. Людзі ветлівыя, добразычлівыя, няма такога тлуму як у Глыбокім! І не верце тым, хто піша, што горад згасае. Гэта – няпраўда. Магчыма ва ўсім гэтым і ёсць заслуга сп-ні Вольгі, якая ў бытнасці кіравала г. Дзісна і столькі зрабіла для горада. Проста не верыцца – колькі энергіі ў гэтай жанчыны, імкнення зрабіць дабро людзям. У г. Дзісна наш кіраўнік Сяргей правёў вандроўку пад ветразем для моладзі горада.



**Сяргей Дзіковіч – унікальны чалавек! Пчалавод, пячнік, столяр, цясляр, аграном, эколаг і г.д. Змайстраваў судна на 30 месцаў, якім можна кіраваць вёсламі, ветразем і маторам.**
*Гл. здымак на стар.1.*

Далей маршрут прайшоў да г. Наваполацка. Прыпынак на сядзібе "Кентаўр". Гаспадар сядзібы – Мікалай Сердзюкоў, які мае свае плаўсродкі. Падчас плавання турысты знаёміліся з цудоўнымі ландшафтамі рэгіёна, рабілі высновы аб стане рэк Дзісны і Заходняй Дзвіны.

Мэта ўдзелу МЭГА "Прырода і мы" ў экспедыцыі – наладжванне супрацоўніцтва з сядзібамі Беларусі, стварэнне грамадскіх экалагічных інспекцый у сельскіх выканкамах (грамадскіх пастоў), распрацоўка экаводных маршрутаў:

**1).** Вёска Васіліны (Пастаўскі р-н) – па рацэ Дзісна да г. Дзісна – далей па рацэ Заходняя Дзвіна – г. Полацк.

**2).** Рака Мядзелка – рака Дзісна да г. Дзісна – далей па рацэ Заходняя Дзвіна - да г.Верхнядзвінска.

**3).** Рака Дзісна – г. Дзісна – рака Заходняя Дзвіна – г. Верхнядзвінск – рака Друйка – г. Браслаў.

Усё гэта робіцца коштам і энтузіязмам мясцовых эколагаў, гаспадароў сядзіб, неабыякавых да захавання нашай прыроды людзей. Але ёсць і іншы бок медаля.

Улічваючы, што ўсе водныя праекты рэалізуюцца з удзелам нашых уладаў і Еўрапейскага Саюзу (ЕС) – г. Віцебск-г. Даўгаўпілс – вынік НУЛЬ. Усе выдаткавыя сродкі пайшлі на абмен досведам, канферэнцыі і банкеты. Такі лёс напаткаў і праект – г. Полацк-г.Даўгаўпілс.

Сітуацыя з экалагічнымі праектамі ЕС/ПРААН у Беларусі проста анекдатычная: зрабілі праект, атрымалі сродкі ад ЕС, падзялілі іх, а для рэгіёнаў – трэнінгі (навучанне) для справаздачы. Праекты даўно размеркаваныя паміж мінскімі арганізацыямі, экспертамі, якія ласыя на любыя падачкі. Гэта нечуваны здзек над нашай беларускай прыродай.

# Выратуем Ельню разам!





Прайшло два добраахвотніцкіх лагеры на балоце Ельня (з запланаваных трох у рамках праекта «Выратуем Ельню разам!»). Сорак валанцёраў добра папрацавалі – правялі агляд і неабходны рамонт двух дзясяткаў плацін. Для большасці валанцёраў удзел стаў першым знаёмствам з балотам Ельня – ніхто не застаўся расчараваным. Кожны змог прыадчыніць для сябе таямніцы незабыўнага балота Ельня – хтосьці ўспудзіў белую курапатку ці ўбачыў вывадак чорнаваллёвага гагача, хтосьці пакупаўся ў балотных азёрах, а хтосьці здзівіўся смаку балотнай вады.

«Выратуем Ельню разам!» — праект, які рэалізуецца грамадскай арганізацыяй «Ахова птушак Бацькаўшчыны» пры падтрымцы ЗП «Кока-кола Беўрыджыз Беларусь».
*Фота: Вольга Лукшыц і Васіль Федасенка.*

## Наша даведка:

**Балотны масіў Ельня, які размешчаны на тэрыторыі Мёрскага і Шаркоўшчынскага раёнаў – адзін з самых буйных не толькі на Беларусі, але і ў Еўропе. Ландшафтны заказнік рэспубліканскага значэння «Ельня» быў створаны тут у 1968 годзе.**

На тэрыторыі заказніка сустракаецца 98 відаў птушак, 23 з якіх занесеныя ў Чырвоную кнігу Беларусі. Характэрная рыса балотнага масіву Ельня — наяўнасць разрэджаных калоній кулікоў на балоце і шматлікіх калоній чайкавых на азёрах. Ельня — месца гнездавання птушак, тыповых для комплексаў верхавых балот: чорнаваллёвага гагача, пардвы, залацістай сеўкі, сярэдняга кулона, стучка і куліка-селянца. Рэдкія для Беларусі ўвогуле, яны сустракаюцца тут у значнай колькасці. Акрамя іх на балоце гняздуюцца дзербнік і арол-вужаед.

**У 2002-м балотны масіў Ельня атрымаў статус воднабалотнага ўгоддзя міжнароднага значэння і ахоўваецца згодна з Рамсарскай канвенцыяй.**

# П'янаму не месца за рулём!

**І.У. Федаровіч,**
*начальнік АДАІ Глыбоцкага РАУС, падпалкоўнік міліцыі*

**Пад такой назвай Дзяржаўтаінспекцыя вобласці з 16 па 20 жніўня правяла мерапрыемства па папярэджанні і прафілактыцы дарожна-транспартных здарэнняў з удзелам нецвярозых вадзіцеляў.**

На вялікі жаль, на сённяшні дзень не атрымоўваецца выкараніць п'янства за рулём. Дадзеная праблема існуе і ў нашым раёне. Нягледзячы на прапаганду па бяспечных паводзінах удзельнікаў дарожнага руху, якая праводзіцца работнікамі дзяржаўтаінспекцыі яшчэ нямала знаходзіцца грамадзян, якія не супраць у п'яным выглядзе пракаціцца за рулём як аўтамабіля, так і матацыкла.

За сем месяцаў бягучага года супрацоўнікамі АДАІ з дапамогай супрацоўнікаў АДА «Ахова» затрымана 196 вадзіцеляў, 24 паўторна на працягу года пасля накладання адміністрацыйнага спагнання за аналагічнае правапарушэнне. Калі ўдумацца ў гэту лічбу, то становіцца не па сабе. Бо гэтыя асобы, маглі прынесці нічым не сувымернае гора ў нечыя сем'і. Яны, хто наўмысна, хто ад таго, што падтупілася свядомасць ад выпітага спіртнога, селі за руль сваіх транспартных сродкаў і кіравалі імі не па палявых дарогах, а па тых жа дарогах і вуліцах, па якіх перасоўваемся і мы з Вамі, па якіх перасоўваюцца нашы дзеці, бацькі, сёстры і браты, альбо на транспарце, альбо ў якасці пешаходаў. З-за такіх нядбайных вадзіцеляў, падвяргаюцца небяспецы нашы блізкія людзі. Сёння мы аналізуем сітуацыю ў раёне, і не ўкладваецца ў галаве той факт, што ў некаторых грамадзян няма ніякага страху перад вялікім штрафам, перад тым, што за кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення вадзіцель пазбаўляецца правы кіравання транспартнымі сродкамі тэрмінам на 3 гады, ні тое, што з-за чаркі выпітага губляюць звычайную працу. За сем месяцаў бягучага года на дарогах раёна здзейснена 10 дарожна-транспартных здарэнняў, у выніку якіх 2 чалавекі загінулі і 14 атрымалі цялесныя пашкоджанні і былі шпіталізаваныя ў бальніцу. 3 аўтадарожныя аварыі, здзейсненыя вадзіцелямі ў стане алкагольнага ап'янення. 2 дарожна-транспартныя здарэнні, у выніку якіх пацярпелі 7 чалавек, здзейсненыя вадзіцелямі, якія прыбылі ў наш раён для аказання дапамогі ў будаўніцтве аб'ектаў народнай гаспадаркі.

Звяртаем вашу ўвагу, што за паўторнае кіраванне транспартам у стане алкагольнага ап'янення справу разглядае суд, і санкцыя прадугледжвае павелічэнне тэрміну пазбаўлення вадзіцельскіх правоў да 5 гадоў, або штраф да 30 базавых велічынь, ці выпраўленчыя работы на тэрмін да 2-х гадоў, альбо арышт на тэрмін да 6 месяцаў.

Дзяржаўтаінспекцыя Глыбоцкага РАУС заклікае ўдзельнікаў дарожнага руху да выканання Правіл дарожнага руху, да сумесных высілкаў па навядзенні парадку на дарогах раёна і выкараненні п'янства за рулём. Калі Вам стала вядома, што транспартным сродкам кіруе вадзіцель у стане алкагольнага ап'янення, просьба паведаміць па тэлефонах: 1-02, 2-27-78, МТС (597-21-74 (у начны час).

# З кожным днём усё радзей і радзей сустракаюцца браканьеры

**А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

Беларусь не абдзеленая воднымі рэсурсамі, асабліва Віцебская вобласць, не выключэнне і Глыбоцкі раён. На тэрыторыі раёна размешчана больш за 100 азёраў і вадаёмаў, шмат якія з іх размешчаныя ў найпрыгажэйшых месцах. З кожным годам усё больш аматараў рыбалкі можна сустрэць на нашых вадаёмах, гэта кажа пра тое, што ёсць у іх шмат рознай рыбы, можна добра правесці час. Ахове вадаёмаў ад браканьераў супрацоўнікамі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету надаецца значная ўвага, з дапамогай добраахвотных памочнікаў, простых грамадзян, міжраённай інспекцыяй штотыдзень спыняюцца спробы незаконнай здабычы рыбы.

За 8 месяцаў бягучага года працаўнікамі Глыбоцкай міжрайінспекцыі на тэрыторыі Пастаўскага раёна затрымана больш за 150 парушальнікаў прыродаахоўнага заканадаўства, канфіскавана 3 км. браканьерскіх сетак, 27 броднікаў, мярожаў, 178 кг. незаконна здабытай рыбы. Прыведзены прыклад указвае на значныя рыбныя запасы вадаёмаў, але з такімі варварскімі адносінамі да прыроды мы хутка і жабу не зможам вылавіць у возеры.

Так, 16 жніўня 2012 года супрацоўнікамі міжрайінспекцыі на возеры Царкоўнае паблізу в. Зябкі Глыбоцкага раёна затрыманы жыхар в. Доўгае грамадзянін Н., жыхар Пастаўскага раёна, які прыехаў у госці да сына. Бацька і сын ажыццяўлялі незаконную здабычу рыбы сеткамі, іх улоў склаў некалькі шчупакоў, чырвонапёрак і акунёў. Парушальнікаў чакае самавіты грашовы штраф.

19 жніўня, каля 20 гадзін, работнікамі міжрайінспекцыі на возеры Олься Пастаўскага раёна затрымана двое жыхароў г. Мінска, якія ажыццяўлялі здабычу рыбы стаўнымі сеткамі.

Гэта толькі невялікая колькасць прыкладаў затрымання правапарушальнікаў. Усцешна, што з кожным днём усё радзей і радзей на нашых вадаёмах сустракаюцца браканьеры, а людзі з разуменнем ставяцца да праблем захавання рыбных рэсурсаў, неацэннную дапамогу інспекцыі ў барацьбе з браканьерамі аказваюць простыя рыбаловы-аматары, велізарны ім дзякуй.

Не магчыма не закрануць тэму чысціні берагоў нашых вадаёмаў. Шматлікія берагі азёр завалены смеццем пасля рознага роду пікнікоў, гуляў, і толькі пакараннем гэту праблему не вырашыць, без разумення праблемы чысціні азёр і дапамогі грамадзян у гэтым пытанні мы не зможам захаваць унікальную прыгажосць нашых вадаёмаў.

Хацелася б нагадаць грамадзянам, што тэрміны збору ягад брусніцы ўсталяваны з 25 жніўня, журавіны з 1 верасня. За мінулы тыдзень інспектарамі затрымана 6 грамадзян, якія парушылі тэрміны збору ягад брусніцы, парушальнікаў чакае прыстойны штраф.

Тэлефоны «гарачай лініі» Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету: 8-02156-28670, 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49.

# З пачатку года колькасць суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва ў Беларусі павялічылася на 3,6%

**У параўнанні з пачаткам 2012 года колькасць суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва павялічылася на 11.321 ці на 3,6%. Такія звесткі прыводзіць прэс-служба Міністэрства эканомікі.**

Пры гэтым, адзначае прэс-служба, тэндэнцыя росту характэрная для ўсіх катэгорый малога і сярэдняга бізнесу.

Паводле звестак Міністэрства па падатках і зборах, па стане на 1 ліпеня 2012 года на ўліку ў падатковых органах знаходзілася 393.496 суб'ектаў гаспадарання, з якіх 324.714 адносяцца да сектара малога і сярэдняга прадпрымальніцтва (індывідуальных прадпрымальнікаў — 227.031, мікраарганізацый — 84.600, малых арганізацый — 110.704, суб'ектаў сярэдняга прадпрымальніцтва — 2.379).

Для параўнання: на 1 студзеня 2012 года на ўліку ў падатковых органах знаходзіліся 313.393 суб'екты малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, у тым ліку 219.285 індывідуальных прадпрымальнікаў, 81.036 мікраарганізацый, 10.703 малыя арганізацыі, 2.369 суб'ектаў сярэдняга прадпрымальніцтва.

Як адзначыла прэс-служба, расце таксама колькасць суб'ектаў гаспадарання, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць на тэрыторыі сярэдніх, малых гарадскіх пасяленняў, сельскай мясцовасці. На 1 ліпеня 2012 года на ўліку ў падатковых органах знаходзілася 107.111 суб'ектаў малога і сярэдняга прадпрымальніцтва, якія арганізавалі сваю справу на гэтых тэрыторыях (індывідуальных прадпрымальнікаў — 76.584, мікраарганізацый — 26.420, малых арганізацый — 2.975, суб'ектаў сярэдняга прадпрымальніцтва — 1.132). Гэты паказчык на 2.243 ці 2,1% большы ў параўнанні з пачаткам года.

Такім чынам, згодна са статыстычнымі звесткамі за I паўгоддзе, 33% агульнай колькасці прадстаўнікоў малога і сярэдняга бізнесу, якія стаяць на ўліку ў падатковых органах, ажыццяўляюць дзейнасць на тэрыторыі сярэдніх, малых гарадскіх пасяленняў, сельскай мясцовасці.

*Марына Носава, БелаПАН.*

# Гарачая пара ў хлебаробаў

**Завадскі А.І.,**
*старэйшы Дзяржаўтаінспектар АДАІ, маёр міліцыі.*

Галоўнай задачай усіх працаўнікоў раёна на сённяшні дзень з'яўляецца ўборка вырашчанага ўраджаю з палёў, дастаўка яго да элеватараў і сушылак без страт. Падчас уборачнай страды, немалаважная задача стаіць і перад кіраўнікамі гаспадарак, дзяржаўтаінспекцыяй, інспекцыяй па працы – гэта недапушчэнне выпадкаў вытворчага траўматызму пры завяршэнні работ па нарыхтоўцы кармоў і ўборцы ўраджаю збожжавых.

У мэтах прадухілення выпадкаў вытворчага траўматызму, забеспячэння бяспечных умоў працы людзей, якія занятыя на ўборцы ўраджаю 2012 у перыяд часу з 1 па 31 жніўня на тэрыторыі вобласці праводзіцца «Месячнік бяспекі падчас правядзення уборачных работ у арганізацыях аграпрамысловага комплексу».

Падчас месячніка, з боку Дзяржаўтаінспекцыі пры адпрацоўцы сельскай мясцовасці звяртаецца ўвага на фізічны стан вадзіцеляў і механізатараў, на тое, ці прайшла тэхніка ва ўсталяваным парадку дзяржаўны тэхнічны агляд, ці праводзіцца ў гаспадарках перадрэйсавы медагляд асобаў, якія ўдзельнічаюць на ўборцы ўраджаю, кантроль з боку інжынерна-тэхнічных работнікаў за станам транспарту перад выпускам на лінію.

Таксама пры спыненні транспартнага сродку, які перавозіць збожжа, працаўнікі ДАІ праводзяць агляд кузаву і прычэпу на наяўнасць рассыпання збожжа, і закрыцця кузаваў тэнтамі.

**Паважаныя хлебаробы!** Мы разумеем, як сёння складана працаваць на ўборцы ўраджаю, падтрымліваем Вас, жадаем, каб на дарогах нашага раёна не было аварый з удзелам транспарту, які ўдзельнічае ва ўборцы.

# Інтарэсы Швецыі ў візавых пытаннях у Беларусі будзе прадстаўляць пасольства Эстоніі

**Анастасія Янушэўская,**
*БелаПАН*

**З 20 жніўня інтарэсы Швецыі ў візавых пытаннях у Беларусі будзе прадстаўляць пасольства Эстоніі. Адпаведнае рашэнне прыняў нядаўна ўрад Эстоніі.**

Як паведаміла БелаПАН прадстаўнік эстонскага МЗС Аннелі Колк, паводле эстонска-шведскай дамовы, ухваленай 16 жніўня, інтарэсы Швецыі ў візавых пытаннях у Беларусі будзе прадстаўляць пасольства Эстоніі, а Швецыя, у сваю чаргу, будзе прадстаўляць інтарэсы Эстоніі ў ПАР і на Кубе.

Выдачу шведскіх віз грамадзянам Беларусі пасольства Эстоніі пачне 21 жніўня, паведаміла Колк. Яна не выключыла, што працэдура падачы дакументаў будзе некалькі адрозніваецца ад ранейшай. Напрыклад, пасольства Швецыі ў Мінску прымала заявы на шведскай і англійскай мове, а пасольства Эстоніі працуе з эстонскай, рускай і англійскай мовамі. Усе падрабязнасці павінны быць апублікаваныя на афіцыйным сайце Міністэрства замежных спраў Швецыі, адзначыла прадстаўнік эстонскага замежнапалітычнага ведамства.

Тым часам сайт пасольства Швецыі ў Мінску інфармуе, што прыём заявак на атрыманне шведскай візы ў візавым аддзеле пасольства ажыццяўляецца па 17 жніўня.

Беларуска-шведскі канфлікт разгарэўся пасля таго, як 1 жніўня ўлады Беларусі апавясцілі Швецыю аб непрацягу акрэдытацыі амбасадару Стэфану Эрыксану. Швецкага дыпламата абвінавацілі ў дэструктыўнай дзейнасці.

У адказ на гэта швецкія ўлады заявілі, што не прымуць новага амбасадара Беларусі, і рэкамендавалі двум супрацоўнікам беларускага пасольства пакінуць Стакгольм.

8 жніўня МЗС Беларусі абвясціў пра адкліканне ўсіх супрацоўнікаў беларускага пасольства ў Стакгольме. Швецкаму боку рэкамендавана распачаць аналагічныя меры і адклікаць усіх сваіх дыпламатаў з Мінска да 30 жніўня.

Дыпламатычны канфлікт паміж Мінскам і Стакгольмам стаў нагодай для пазачарговага паседжання Камітэта па палітыцы і бяспекі Рады ЕС, якое адбылося 10 жніўня ў Брусэлі. Яго ўдзельнікі прыйшлі да высновы, што сітуацыя закранае не толькі беларуска-шведскія адносіны, але і адносіны Беларусі з Еўрасаюзам. Па выніках паседжання было абвешчана, што з улікам дыпламатычнага канфлікту паміж Беларуссю і Швецыяй у кастрычніку ЕС будзе прымаць рашэнне пра абмежавальныя меры ў стаўленні да афіцыйнага Мінска.

